# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 3 (59) 21—27 студзеня 1994 г. Кошт 100 рублёў


## Міністры сустрэліся ў Горадні

12 студзеня ў Горадні адбылася рабочая сустрэча міністра Абароны Беларусі гэнэрал-палкоўніка Казлоўскага з міністрам Нацыянальнай абароны Польшчы віцэ-адміралам Пятром Каладзейчыкам. Перамовы адбываліся за зачыненымі дзьвярыма, пасьля чаго П. Каладзейчык быў прыняты старшынёй Гарадзенскага аблвыканкама С. Домашам. Пасьля палудня госьць наведаў адну з вайсковых часьцей беларускага войска.

У той самы дзень абодва міністры накіраваліся ў Менск.

(ав).

## Цікаўнасьць да апазыцыі ўзрастае

Напачатку студзеня Мастоўскі раён наведалі дэпутаты ад апазыцыі на чале з Зянонам Пазьняком. Сустрэчы адбываліся ў Мастах і Лунна. Дэпутаты распавядалі аб сёньняшнім эканамічным і палітычным становішчы на Беларусі й вакол яе, а таксама адказалі на мноства пытаньняў жыхароў раёна.

Цікава, што ні ў Мастах, ні ў Лунна клубныя памяшканьні не ўмясцілі ўсіх жадаючых, якія прыяжджалі з далёкіх вёсак.

Падчас сустрэч праводзіўся запіс у шэрагі БНФ.

М. БАЎСЮК.

## На Лідзкім заводзе электравырабаў

12 студзеня па ініцыятыве прафсаюзаў адбыўся мітынг, на якім прысутнічалі ўсе працуючыя работнікі заводу. На мітынг былі запрошаны прадстаўнікі БНФ, БСДГ і лігі абароны правоў чалавека лідчыны. Мэрапрыемства адразу пайшло не па сцэнару, падрыхтаванаму адміністрацыяй. Большасьць выступаючых казалі аб тым, што выстаўляць эканамічныя патрабаваньні зараз нямэтазгодна, бо ўсё роўна абмануць. Гаварылася аб вялікіх падатках, ускладзеных на вытворцаў, аб карумпаванасьці ўрада й мясцовых органаў улады, аб немагчымасьці лепшых перамен да жыцьця пры існуючай сістэме ўлады. У выніку была прынята рэзалюцыя толькі з двух пунктаў: патрабаваць адстаўкі ўраду; вызначыць дату правядзеньня пазачарговых выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі.

У. КРУЦІКАЎ.

## З-за неразьлікаў пакутуюць дэкрэтніцы

Узаемаразьлікі паміж прамысловымі прадпрыемствамі прыносяць непрыемнасьці ня толькі іх кіраўніцтву і работнікам, але й людзям, што па ўважлівай прычыне не працуюць на іх. Жанчыны, што знаходзяцца не змаглі ў тэрмін атрымаць ад Гарадзенскай абутковай фабрыкі дапамогу на дзіця. Прычына тыповая для нашага часу — на рахунку прадпрыемства няма на гэта грошай, бо спажыўцы сваечасова не пералічылі іх за адгружаную ім прадукцыю. Як паведамілі ў разьліковай групе фабрыкі, грошы на гэта шукаюцца і, магчыма, ужо на гэтым тыдні дэкрэтніцы атрымаюць ім належанае.

Д. А.

## Шалёныя цэны

У чарговы раз на Беларусі павялічыліся цэны за карыстаньне паслугамі сувязі: адна хвіліна тэлефоннай размовы ў межах вобласьці каштуе — 60, па рэспубліцы — 120 рублёў. Каб даслаць ліст у пэўны населены пункт Беларусі, за канвэрт трэба заплаціць 35 рублёў, СНД — 125.

З 1 студзеня павялічаны таксама закупачныя цэны на каштоўныя мэталы. Адзін грам золата 583-й пробы набываюць у скупачным пункце Ювеліргандля за 54 тысячы рублёў, а грам срэбра — за 1.100.

Д. А.

## Першыя ластаўкі

У фарным касьцёле Горадні адбыўся канцэрт камэрнай музыкі. Праграму канцэрта склалі творы Баха, Гэндэля, Качыні, Сэн-Санса, а таксама гучалі калядныя песьні. Найвялікшае ўражаньне пакінуў твор «Агнец Боскі» з «Высокай Месы» Баха, мадрыгал «Амарыліс» Качыні, арыя Альміры з опэры «Рынальда» Гэндэля.

Вакальную партыю гэтых твораў выканала Ала Мурашка, акампанэмэнт на аргане — Сяргей Багданаў і Бруна Цермён, сола на скрыпцы іграла Тацьцяна Сухоцкая.

Канцэрт стаў знакамітай падзеяй у музычным і культурным жыцьці горада. Усе прысутныя выказалі адно жаданьне — часьцей слухаць чароўныя гукі сьвятых мэлёдый у касьцёлах, бо адмысловая архітэктура даўніны і вытанчаная акустыка ствараюць незабыўную ауру.

В. РАДЫЕНАЎ.

## «Беларусь. На перакрыжаваньнях гісторыі»

Кніжку пад такой назвай на ангельскай мове выпусціла выдавецтва «Westwiew Press» у серыі «Заходні погляд на пост-савецкія рэспублікі». Аўтарам яе зьяўляецца вядомы Ян Запруднік. У выданьні зьмешчаны энцыклапэдычныя зьвесткі пра геаграфію, насельніцтва, армію, эканоміку, органы кіраваньня краіны, асьветлены асноўныя моманты гісторыі Беларусі: зьяўленьне й развіцьцё нацыянальнай ідэі, дзейнасьць і лёс яе носьбітаў, праведзеньне русіфікацыі і яе вынікі для беларусаў, знаходжаньне Беларусі ў складзе ВКЛ, Рэчы СССР, стасункі з суседзямі. Шмат увагі ў кнізе ўдзелена сучаснасьці: канфрантацыя паміж нацыянальнай інтэлігенцыяй і кіруючай намэнклатурай (храналогія барацьбы), пераўтварэньні, якія адбыліся ў грамадзтве пасьля 1985 года, чарнобыльская катастрофа й яе вынікі для Беларусі. У кнізе адлюстраваны таксама прыродныя рэсурсы, экспартныя магчымасьці, дзейнасьць парлямэнта, палітычных партый, іх мэты.

Адзін з экзэмпляраў кніжкі Ян Запруднік спрэзэнтаваў Гарадзенскай абласной бібліятэцы імя Я. Карскага.




## Паўстань, наша воля!

Чужынцамі стаптана поле,
Над душамі кружаць сычы,
Паўстань, дрыгавіцкая воля,
Радзімічы і крывічы!
Пясьняр, разарві свае путы,
Паўстань і былінай услаў
Рагнеды красу і пакуты
І мужнасьць тваю, Усеслаў!
Далёкія, блізкія продкі.
Хто край бараніў і жывіў,
Паўстаньце, на момант кароткі,
Паўстаньце з агню і крыві!
Не высахла вольнасьці дрэва,
Народ не схіліла журба—
На замках Гародні і Крэва
Паўстань, баявая труба!
Паўстаньце, славутыя роды,
Настаў вашай мужнасьці час,—
Даволі ўсходняй нагоды
І пыхі заходняй для нас!
Паўстаньце да новае долі
Сыны, дачакаўшы вясну!
— Па стоптаным некалі полі
Араты вядзе баразну!

П. МАЛАФЕЙ.

## Вось мая вёска, вось мая родная хата...

**Першая ў рэспубліцы дзяржаўная вучэбна-выхаваўчая ўстанова новага тыпу, так званая дзіцячая вёска, будуецца на заходнім ускрайку горада Кобрына Берасьцейскай вобласьці. Ужо закончана ўзьвядзеньне надземнай часткі шасьці двухпавярховых катэджаў з чырвонай цэглы арыгінальнай планіроўкі і архітэктуры.**

**Ідэя стварэньня так званых дзіцячых вёсак ня новая. У эўрапэйскіх краінах яны маюць даволі шырокае распаўсюджаньне. Але адкуль «растуць ногі» у гэтага пачынаньня ў нас!**

«Інфармацыю аб дзіцячых дамах сямейнага тыпу знайшлі ў прэсе,— распавядае карэспандэнту начальнік упраўленьня адукацыі Берасьцейскага аблвыканкама Рыгор Данілавіч Богнат.— Прынцып работы, вучэбна-выхаваўчы працэс мы ўбачылі ў калег з польскага правінцыйнага гарадка Белгарай. У выніку паездак кіраўнікоў Берасьцейскай вобласьці ў Польшчу ў 1989 годзе й было прынята рашэньне аб будаўніцтве дзіцячай вёскі ў Кобрыне».

Дамы для дзяцей-сірот і пасёлак у цэлым спраэктаваны інстытутам «Брэстграмадзянпраэкт». Аўтар праэкта — мясцовы архітэктар Уладзімір Чайкоўскі.

Раней на гэтую справу прызначаліся сродкі, зароблены на камуністычных суботніках. З пачаткам эканамічнага спаду гіпэрінфляцыя зрабіла сваю справу, і ў апошнія гады будаўніцтва спынілася з-за адсутнасьці грошай. Выдаткаваных з рэспубліканскага бюджэту сродкаў (каля 350 мільёнаў рублёў у цэнах 1993 года) недастаткова. Толькі для закупкі мэблі сёньня патрэбна звыш 700 мільёнаў рублёў».

Для поўнага абсталяваньня шасьці катэджаў (з інжынерным начыньнем) патрабуецца звыш 1,5 мільярда рублёў. Гуманныя мэты знайшлі водгук у заходнегерманскіх бізнэсмэнаў, якія выдаткавалі 200 тысяч марак для заканчэньня першай чаргі дзіцячай вёскі... Яны пераведзены ў «зайчыкі» і ўжо ў рабоце. Вось так бізнэсмэны фірмы «Фэдэральная служба тэхнадапамогі і зямельны саюз Зямлі Паўночны Рэйн-Вэстфалія» дапамагаюць будаваць дзіцячую

Па праэкту дзіцячая вёска для сірот — гэта пятнаццаць жылых катэджаў з сістэмай інжынернага забесьпячэньня. У кожнай такой хаціне бацькі-выхаваці, якія будуць працаваць па кантракту, прыняўшы на выхаваньне да дзесяці дзяцей. Ужо зараз гэтыя людзі падбіраюцца па конкурсу.

Арыентацыя — на сусьветную практыку, дзе выхавацелі — маці-адзіночкі. Выхоўвацца тут будуць пераважна дзеці-сіраты, а таксама тыя, бацькі якіх пазбаўлены бацькоўскіх правоў.

Агульная канцэпцыя дзіцячай вёскі адносна нашых умоў распрацавана Міністэрствам адукацыі рэспублікі. Другая чарга яе пакуль рыхтуецца. Сюды будзе ўваходзіць гатэль, школа-сад, мэдыцынскі блёк і іншыя забудовы. Па дасягненьню паўналецьця дзеці павінны будуць уступіць у самастойнае жыцьцё.

Пакуль жа ўпраўленьне народнай адукацыі сумесна з мясцовымі ўладамі падалі праэкт гэтай вёскі на конкурс амэрыканскай дабрачыннай арганізацыі «Сіціхоуп інтэрнэйшнл». Бо фінансаваньне гэтага дзіцячага дома сямейнага тыпу толькі з рэспубліканскага бюджэту, як мы бачым, недастаткова.

Першую чаргу дзіцячай вёскі плануюць здаць да пачатку новага навучальнага года (1994). Будзем спадзявацца, што другая яе чарга не прымусіць доўга чакаць, бо тут памятаюць, дзеля каго й чаго распачата будаўніцтва. Толькі сорамна і дзіка, што нават дзіцячы дом дапамагаюць будаваць немцы. Ім — вялікі дзякуй. А нам?..



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## Расколы і адколы

Заканчэньне мінулага года прынесла раскол ў Дэмакратычным руху рэформ Рэспублікі Беларусь.

Сабраўшыся на свой патаемны сход, адкуль выгналі ўсіх не сваіх, упершыню актывісты гэтай арганізацыі так і не дамовіліся паміж сабой. А гаварылі яны аб тым, як зрабіць ДРР РБ масавым і ўплывовым у палітычным жыцьці Беларусі.

ДРР РБ так і ня стаў аўтарытэтным на Беларусі. Ён займае нізкае месца сярод палітычных арганізацый Беларусі. Яго лідэраў ніхто дакладна ня ведае. Хіба толькі імя Вольгі Абрамавай нешта значыць, ды й то таму, што яна выступае за наданьне статута дзяржаўнай мовы — рускай мове. І яшчэ прапагандуе лідэра расейскага «Грамадзянскага саюза» Аркадзя Вольскага.

Сваёй дзейнасьцю ДРР РБ адштурхнуў ад сябе іншыя палітычныя арганізацыі. Ды й як можна знайсьці сабе саюзьнікаў, калі няма вызначанай стратэгіі. З аднаго боку, ДРР РБ не падтрымлівае беларускай ідэі, а з другога — не выступае за аднаўленьне Саюза. З аднаго боку — супраць камунізму й за блок з дэмакратамі, з другога — ня хоча псаваць адносіны з намэнклятурай. Такі вінэгрэт да посьпеху ніколі не прывядзе.

— Як можа быць дэмакратычнай і дзейснай арганізацыя, калі ёй кіруюць былыя выкладчыкі гісторыі КПСС,— заўважыў адзін з удзельнікаў сходу.

На сходзе Вольга Абрамава зноў пачала прапагандаваць свайго куміра Вольскага і «Грамадзянскі саюз». Але дзе той «Грамадзянскі саюз» у Расеі? Ён з трэскам прайграў выбары, і калі раўняцца на яго, то можна прайграць выбары і ў Беларусі.

Яшчэ адзін лідэр — Сяргей Злотнікаў — выступіў за радыкальныя меры, але й яго не падтрымалі. Тады ён і яшчэ некалькі чалавек пакінулі залу.

Канфэрэнцыя зьмяніла ўвесь склад кіраўніцтва арганізацыі. Але наўрад ці гэта пойдзе руху на карысьць.

На гэтай канфэрэнцыі быў вядомы менскі бізнэсмэн Алесь Радзівіл. Ён ня ўтоўваў, што хоча заняцца вялікай палітыкай. Радзівіл мог бы ўступіць у Партыю народнай згоды, бо ў яго добрыя адносіны з яе лідэрамі Карпенкам і Ганчаром. Але ж там ён быў бы на другіх ралях. Бізнэсмэн хоча іграць першыя і прапануе за гэта немалыя грошы. Члены ДРР РБ моцна ўхапіліся за Радзівіла. Але, відаць, ім не спадабаліся яго радыкальныя ідэі, і бізнэсмэна нікуды ня выбралі. Пакрыўдзіўшыся, Радзівіл заявіў, што больш зьвязвацца з ДРР РБ ён ня будзе, бо там несур 'ёзныя людзі.

Па нашым зьвесткам, Радзівіл зьвязаўся з адной з «захудалых» партый, якую ён паабяцаў забясьпечыць фінансава. Якую? Гэтага пакуль што мы ня ведаем, але, думаецца, хутка гэта партыя заявіць аб сабе.

**У. СЕМЯНЦОЎ.**

## Калі зьбяруцца лезбіянкі?

Мяне, як і іншых беларусаў Віленшчыны, зьдзівіў так званы Кангрэс народаў Беларусі, праведзены аб 'яднаньнем «Народны рух Беларусі», і спробы пэўных колаў надаць яму значэньне ўсебеларускага сходу. Сама па сабе падзея, ня вартая ўвагі: ну, сабраліся русафілы, ну, пакрычалі: «С Россией на вечные времена», на тое яны й русафілы. Да таго ж, у арганізацыях, уваходзячых у «Народны рух Беларусі», беларусаў якраз менш за ўсіх. Выключэньне хіба складаюць вэтэранскія арганізацыі. Але беларусы шмат прысутнічаюць у асноўным у якасьці шэраговых сябрoў. У тым жа парлямэнцe РБ ад вэтэранаў беларусаў — 13, рускіх — 16.

Зьдзіўляе іншае: як некаторыя народныя дэпутаты, спасылаючыся на рашэньні «кангрэсу», адкрыта агітуюць за ліквідацыю незалежнасьці Беларусі, вяртаньне яе ў стан Паўночна-Заходняга краю Расеі. Нядаўна трапіў у рукі 37 нумар «М и в» з артыкулам народнага дэпутата РБ Леаніда Прывалава «Будет ли Беларусь банановой республикой?» Шаноўны дэпутат, спасылаючыся на «кангрэс», даводзіць, што народ і ўрад Беларусі (маецца на ўвазе сам Л. Прывалаў) імкнуцца да «интеграционности с Россией». Згодна тлумачальнаму слоўніку рускай мовы, «інтэграваць»— азначае аб 'ядноўваць часткі ў адно цэлае. У Летуве, як і ў іншых краінах, такія дзеяньні дэпутата разглядаліся б як здрада Айчыне з адпаведнымі крымінальнымі высновамі.

На жаль, Прывалаў у сваёй антыбеларускай «кангрэсовасьці» не адзін. Сям-там сустракаеш выказваньні і іншых урадавых чыноўнікаў са спасылкамі на «кангрэс» як волевыўленьне беларускага народу. Становіцца крыўдна за Бацькаўшчыну: як лёгка невялікія групоўкі, што прадстаўляюць самі сябе, могуць прысвоіць права гаварыць ад імя ўсяе краіны.

Беларусаў Віленшчыны цяпер не зьдзівіць, калі неўзабаве зьбярэцца сход сэксуальных меншасьцяў Рэспублікі Беларусь, і шаноўныя лезбіянкі аб 'явяць свае рашэньні воляй беларускага народу.

**П. МАЛАФЕЙ.**
**г. Салечнікі.**

## Нам ня трэба дарадчыкаў

У шэрагу газэтаў — «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газэта», «Зьвязда» — сустракаюцца артыкулы пад шыльдаю «Адраджэньне».

На самой справе у гэтых допісах назіраем актыўны працэс каланізацыі нацыі, менавіта таго, апошняга, што захавалася й не паддалося пад акупацыйны схіл.

Нашу Айчыну перафарбоўваюць з мэтаю ўвекавечаньня акупацыі, але ўжо пад штандарам «Адраджэньня»!

Назоў нашае Айчыны — Летува, а ня «Белая Русь». Усё: мапы, дакумэнты пацьвярджаюць, што ў межах сучаснае дзяржавы жылі й жывуць ліцьвіны, яцьвягі, прусы, а не «белорусы». Дакумэнты й фактычныя матэрыялы — грошы, рэшткі нашых продкаў, будынкі, замкі, літувіскія бажніцы... мовяць аб гэтым.

200-гадовая акупацыя з боку Расеі мэтанакіравана рабіла высілкі на зьнішчэньне нашае дзяржаўнасьці — Вялікае Летувы.

Зараз пішучая гвардыя варожага схілу плённа працягвае дзейнасьць расейскіх акупантаў, але ўжо па каланізацыі нашае Бацькаўшчыны. Гэтая «сябрына» пісак даказвае, што наша нацыя загінула і перапварылася ў агульную супольнасьць славянская паходжаньня. Сёньня яны выкарыстоўваюць нацыянальны нігілізм і здраду, каб тлумачыць пад шыльдаю «лепей зразумеюць» штучны і эміграцыйна чужаземны назоў «Белоруссия».

Навошта так стараюцца? Для таго, каб у гадзіну станаўленьня нацыянальнае самасьвядомасьці нашыя землі, акупаваныя Расеяй, не злучыліся з Бацькаўшчынай — гэта Смаленшчына, Браншчына. Здрадніцкі ўтрымліваюць пасады, адпаведна й уладу, каб нацыя не аб 'ядналася й не ўсталявала Вялікую Летуву ў яе межах: ад Балцкага мора да Чорнага мора, ад Віслы да Акі.

**МІКОЛА ШУТ, Баранавічы.**

## Кебіч ня будзе прэзідэнтам

У газэце «Рэспубліка» было надрукавана інтэрв 'ю з астролагам Паўлам Глобай. У ім Глоба заўважыў, што ні Шушкевіч, ні Пазьняк не стануць прэзідэнтамі Беларусі. Дык што: прэзідэнтам стане Вячаслаў Кебіч? Аб гэтым мы спыталі аўтара інтэрв 'ю Уладзіміра Абрамовіча.

— Аб Кебічу у размове з астролагам увогуле не ўспаміналася,— адказаў журналіст.—Глоба заўважыў, што лідэрам стане зусім новы чалавек. Размова зайшла аб мэры Маладзечна Генадзю Карпенку. Павел Паўлавіч сказаў, што ў яго лепшыя шанцы, чым у іншых, але ён ня склаў яшчэ гараскоп Карпенкі, таму нічога канкрэтнага сцьвярджаць ня можа.

Аўтар артыкула паведаміў астролагу дакладныя дадзеныя нардэпа Карпенкі. Думаецца, у наступны прыезд ў Менск адказы Глобы будуць больш канкрэтнымі.

Але чаму гэта не было надрукавана ў інтэрв 'ю, У. Абрамовіч нічога не адказаў. Але й без адказу ўсё зразумела: «Рэспубліка» зьяўляецца ўрадавай газэтай. І журналістам не хацелася б сапсаваць настрой свайму бацьку. Няхай Кебіч памроіць аб прэзідэнцтве.

**У. СЕМЯНЦОЎ.**

## Рабочыя патрабавалі зарплаты. АМОН выклікаў дапамогу

13 студзеня каля 15-ай гадзіны на пляцы Леніна ў Горадні, на гадзіну раней пакінуўшы зьмену, сабраліся рабочыя завода «Аўтаагрэгатаў». На гэтую меру іх падштурхнула нявыплата своечасова заработнай платы за мінулы месяц. Апроч гэтага дэлегацыя рабочых ад завода накіравалася да мэра горада з патрабаваньнямі паніжэньня цэнаў на прадукты харчаваньня, павелічэньня заработнай платы. У сьпісе былі й палітычныя пункты: неадкладна правесьці датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет і адстаўка ўрада Кебіча. Праўда, на пляцы пад густым зімовым даждажом, які так і не сьціх да ночы, гаворка ў асноўным вялася пра тое, што ўжо з сёмага студзеня не выплацілі зарплаты, цана на мяса падскочыла да дваццаці тысяч і няма чым карміць дзяцей.

Прыблізна каля 16-ці гадзін да рабочых выйшаў мэр Горадні Г. Крупенка. Ён патлумачыў, што ведае аб склаўшымся цяжкім становішчы ня толькі на заводзе «Аўтаагрэгатаў», але і іншых прадпрыемствах горада і паведаміў, што а 16-ай гадзіне ў аблвыканкаме будзе адбывацца нарада вабласных, гарадзкіх уладаў, дырэктароў прадпрыемстваў, а таксама банкіраў, каб знайсьці выйсьце са склаўшайся сытуацыі. Сказаў, што 50% заработнай платы рабочыя атрымаюць ужо заўтра.

Аднак яго выступленьне яўна не задаволіла сабраўшыхся, паколькі інфляцыя з 'ядае грошы за некалькі дзён і калі сёньня яшчэ можна за месячную зарплату набыць пяць кілаграмаў мяса, то праз тыдзень можа ня быць і гэтага. Многія спрабавалі высьвятліць у мэра, чаму ў нашым горадзе самыя высокія кошты ва ўсёй Беларусі на хлеб і іншыя прадукты харчаваньня. Не дачакаўшыся якога-небудзь канкрэтнага адказу на свае пытаньні, рабочыя вырашылі чакаць рашэньня, якое прымуць у аблвыканкаме, даючы гэтым самым зразумець, што настроены дамагацца сваіх патрабаваньняў да канца.

Густы зімовы дождж яшчэ больш узмацніўся. Мінула больш за гадзіну, з пляца ніхто не адыходзіў і з аблвыканкама не было ніякіх зьвестак.

Замерзлыя людзі ўрэшце рушылі з пляца Леніна да ўвахода ў аблвыканкам. Некаторы час стаялі моўчкі на прыступках, але ўсё часьцей з натоўпу даносіліся заклікі ўвайсьці ўсім у будынак. Адчувалася, што людзьмі апаноўвае нярвознасьць.

Дзяжурныя міліцыянты, якія стаялі каля ўваходу, дазволілі жанчынам увайсьці ў фае пасядзець і сагрэцца. Натоўп пачаў націскаць са сьвістам і крыкам. Тых, хто стаяў наперадзе, амаль заціснулі ў дзьверы, праўда, падасьпелі выбегчы міліцыянты і затрымаць уламанцаў. Каля дзьвярэй раздаліся крыкі жанчын. Гэта ўжо было небясьпечна. «Актывістаў» пачалі ўспакойваць свае ж калегі, адчуўшы, што адбываецца нешта ня тое. На дапамогу дзяжурным міліцыянтам падасьпелі пяцёра амонаўцаў на чале з намесьнікам начальніка УУС аблвыканкама. Чатырох з іх сталі каля ўвахода, а адзін з рацыяй выклікаў дапамогу. Натоўп зноў заціх, а праз дарогу на пляцы ўжо выстраіўся ўзвод АМОНА.

Праз некалькі хвілін выйшаў старшыня прафкама завода «Аўтаагрэгатаў» і заклікаў рабочых не паддавацца на правакацыі, а вырашаць свае праблемы цывілізаваным шляхам.

Зьявіўся і дырэктар прадпрыемства. Ён паведаміў, што заўтра рабочым выплацяць 50% заробку, паколькі болей грошай няма. Аднак аб гэтым па-ранейшаму ніхто не хацеў слухаць, зноў гучалі патрабаваньні.

Нехта прапанаваў адправіць дэлегацыю за грашыма ў Расею, прадпрыемствы якой не заплацілі заводу каля мільярда рублёў. На гэтым таксама не засяроздзілі ўвагі і пачалі патрабаваць, каб да народа выйшаў старшыня аблвыканкама. Адзін напалоханы палкоўнік міліцыі некалькі разоў голасна крычаў, што Домаша няма, тады з натоўпу данеслося: «Давай Кебіча!».

Урэшце старшыня прафкама і дырэктар прапанавалі ўсім разысьціся, паабяцаўшы, што заўтра на заводзе адбудзецца сход, на якім абавязкова будуць прысутнічаць старшыня аблвыканкама, гарвыканкама, банкіры і дзе можна будзе вырашыць склаўшыяся праблемы ў нармальных умовах.

Рабочыя паверылі і, пагадзіўшыся, што пад даждажом і цёмным небам вырашаць такія праблемы немагчыма, пачалі разыходзіцца. Ад 'ехаў АМОН.

На скрыжаваньні каля сьвятлафора нехта незадаволена голасна тлумачыў яшчэ сваім калегам, што паадзіночку яны нічога не дамогуцца, што ўсе ва ўсім вінаватыя, таму што не глядзяць уперад і не аб 'ядноўваюцца, каб па-сапраўднаму запатрабаваць адстаўкі Кебіча, а разам з гэтым і ўсяе старой прагнiўшай ушчэнт бальшавіцкай сістэмы.

Назаўтра на заводзе «Аўтаагрэгатаў» выплацілі 50% ад заробку за мінулы месяц, і адбыўся агульны сход, на якім прысутнічалі старшыня аблвыканкама С. Домаш, старшыня гарвыканкама Г. Крупенка і гарадзкія банкіры. Рабочым паабяцалі, што з наступнага панядзелка выплацяць другую палову грошай.

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

# ГІСТОРЫЯ Й СУЧАСНАСЬЦЬ

Юсуф Мірза КРЫНІЦКІ

# Беларускія татары



## У эпоху Сасаў

Дакумэнты эпохі Сасаў сьведчаць, што каралі гэтай дынастыі ня толькі не прыціскалі татараў, але нават крыху пашырылі іх правы.

У Эўропе ў гэты час узьнікае мода на ўсходнія атрады. У 1730 годзе ў час вайсковага агляду пад Мюленбергам кароль Аўгуст II некаторыя свае падразьдзяленьні апрануў у ўніформу янычараў. Татарскія палкі таксама атрымалі мундзіры ўсходняга стылю, потым іх стылізаваныя галаўныя ўборы перайшлі ў форму уланаў царскай арміі.

* * *

Апынуўшыся ў чужым, а часта й варожым асяродку, татары захавалі сваю рэлігійную адасобленасьць. Найбольш важную ролю тады адыграла абшчына — джэмат. Яе цэнтрам была мячэць. На рэгулярных сходах, якія ўзначальвалі харунжыя ці імамы, абмяркоўваліся справы абшчыны, а іншы раз і пытаньні, якія датычыліся ўсяго татарскага насельніцтва на гэтых землях. З другой паловы XVIII стагоддзя імамы сталі прымаць у татараў прысягу на вернасьць Рэчы Паспалітай. Становішча ў імама было аднолькавым з іншымі татарамі-шляхцічамі. Яны абавязаны былі несьці вайсковую службу. Вайсковыя сьвятары — мусульмане, аплачаныя дзяржавай, зьявіліся ў татарскіх палках у эпоху Сасаў. Імамы карысталіся сярод мусульман усеагульнай павагай і даверам.

* * *

У час праўленьня Станіслава Аўгуста (1764-1794) у сувязі з фінансавымі рэформамі, маёмасьць татараў аказалася пад пагрозаю. Прыдворны скарбнік Антоній Тызэнгаўз пачаў ліквідацыю татарскіх маёнткаў. Татарам, якія служылі ў войску Рэчы Паспалітай, іх жонкі паведамлялі: «адны вёскі забіраюць, з хат выганяюць, на іншых кантрыбуцыю накладаюць». Калі ў Беларусі й Летуве зьявілася войска канфэдэратаў, татары сустрэлі іх як ратаўнікоў. Шмат з іх далучыліся да паўстаньня, сярод іх быў палкоўнік Якуб Азулевіч. Да сярэдзіны траўня гарадзенская шляхта ўзьнялася на паўстаньне. Месцам збору канфэдэратаў прызначылі Сакулку. Гарадок гэты ахоўваўся палком Азулевіча. 4 лістапада 1794 года разам з іншымі татарскія атрады абаранялі Варшаву. Невядомы паўстанец-татарын запісаў у сваім малітоўніку, што там загінула шмат мусульман. Абаронцаў Варшавы, якія загінулі ў бітве з арміяй Суворава, пахавалі ўсіх разам, ня робячы розьніцы ў веравызнаньні, паблізу з касьцёлам над Камянкоўскім возерам.

## У складзе Расейскай імпэрыі

Пасьля падзелу Рэчы Паспалітай большасьць татараў апынулася ў межах Расейскай імпэрыі. Царскі ўрад, жадаючы мець ў мусульманах ня ворагаў, а саюзьнікаў, пацьвердзіў ім усе ранейшыя прывілеі. Ужо ў 1794 годзе Екацярына загадала гэнэрал-губэрнатару Мікалаю Рэпніну паклапаціцца аб схіленьні гэтай этнічнай групы на карысьць Расеі. Рэпнін, прыняўшы прысягу на вернасьць ад прадстаўнікоў татарскіх абшчын, запэўніў іх у царскай міласьці. Пацьверджаньне ўсіх сваіх правілаў і прывілей татары атрымалі і ад Паўла І, і ад Аляксандра І.

Быў створаны татарскі полк. Ён атрымаў мундзіры нябесна-блакітнага колеру з чырвоным, з жоўта-белымі ўпрыгожваньнямі для радавых, залатымі і срэбранымі — для афіцэраў. Полк гэты браў удзел у вайне з Фрэнцыяй, вызначыўся ў баях пад Цурыхам і Кірхдорфам.

Як і ў часы польскіх каралёў, найлепшыя пэрспэктывы адкрываліся для татараў у войску. Ужо ў пачатку XIX стагоддзя зьявіўся першы расейскі гэнэрал татарскага паходжаньня Юсуф Улан. На працягу XIX стагоддзя ў войску служылі прынамсі некалькі дзесяткаў гэнэралаў і палкоўнікаў, якія паходзілі ад мясцовых татараў. Афіцэраў ніжэйшага рангу можна налічыць некалькі соцен. Улічваючы, што мясцовыя мусульмане складалі надта нешматколькасную этнічную групу, колькасьць гэтая ўражвае. Перад першай сусьветнай вайной у Расейскай імпэрыі было каля 20 гэнэралаў з мясцовых татараў.

У Расейскай імпэрыі існавала тры колы муфціяў, якія займаліся праватнымі пытаньнямі, якія датычыліся мусульман. Муфціі прызначаліся асабіста царом па рэкамэндацыі міністра ўнутраных спраў.

У 1905 годзе адбыўся Першы ўсеагульны мусульманскі зьезд у Ніжнім Ноўгарадзе, на якім быў створаны Ўсерасейскі Мусульманскі Саюз, які паставіў мэтай барацьбу за палітычныя і культурныя правы для мусульманскіх народаў, якія насялялі дзяржаву.

У 1906 годзе на Другім зьезьдзе, тэрыторыі, населеныя мусульманамі, падзялілі на 16 раёнаў. Беларускія мусульмане былі ўключаны ў «літоўскі раён» з цэнтрам у Менску.

У 1907 годзе ў Пецярбурзе быў заснаваны Гурток Акадэмікаў мусульман польскіх з мэтай адраджэньня культуры і звычаяў мусульман на землях ранейшай Рэчы Паспалітай. Адным з стваральнікаў яго быў Ляон Найман Мірза Крычынскі, дасьледчык гісторыі татараў. У год рэвалюцыі выйшла ў Петраградзе выдадзеная ім кніга «Бібліяграфічны матэрыял да гісторыі татараў Польшчы, Летувы, Беларусі і Украіны».

Каларытнай асобай быў таксама Якуб Мурза Бугацкі. У маладосьці ён служыў у польскім і расейскім войску, пасьля падзеньня Рэчы Паспалітай эміграваў у Турцыю, ажыцьцявіў паломніцтва у сьвятыя месцы іслама. Вярнуўшыся на Палесьсе, заняўся грамадзкай і гістарычнай дзейнасьцю. Памёр ва ўзросьце 90 гадоў. Яго сын — Сялім Бугацкі — пераклаў Каран на польскую мову, пераклад дапоўніў і ўдасканаліў сын Сяліма — Ян Тарак Бугацкі, і ў 1858 годзе Каран быў выдадзены ў Варшаве.

## Пасьля рэвалюцыі

Пасьля рэвалюцыі татары прымалі ўдзел у барацьбе за незалежнасьць Польшчы. У лютым 1920 года быў створаны татарскі полк уланаў імя Мустафы Ахматавіча, у яго ўвайшлі таксама афіцэры-каўказцы. У бітвах пад Кіевам амаль увесь полк загінуў.

Стварэньне незалежнай Рэчы Паспалітай абарвала і без таго слабую сувязь з крымскім муфціятам. У 1923 годзе варшаўскія мусульмане заснавалі Мусульманскі Саюз Сталічнага горада Варшавы. У 1925 годзе ў Вільні на Ўсепольскім зьезьдзе мусульман была абвешчана незалежнасьць ад крымскага муфція і прынята аўтакэфалія мусульманскага веравызнаньня на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Першым муфціям польскіх мусульман стаў Якуб Шынкевіч, доктар арыенталістыкі, які за 14 гадоў шмат чаго зрабіў для адраджэньня татарскай культуры. Муфціят знаходзіўся ў Вільні, яму падпарадкоўвалася 19 абшчын.

У 1926 годзе адбыўся зьезд мусульманскай інтэлігэнцыі ў Вільні, на якім быў створаны культурнаасьветніцкі Саюз польскіх татараў. У 1929 годзе ў Вільні ствараецца Татарскі Музэй. У ім былі сабраны рукапісныя Караны і кітабы, дакумэнты, фотаздымкі войска татарскага, манеты, старыя друкаваныя кнігі пра татараў, малюнкі і фотаздымкі мячэцяў. У 1938 годзе выйшла ў сьвет кніга Станіслава Крычыньскага «Літоўскія татары, спроба гісторыка-этнаграфічнай манаграфіі». Зьяўленьне яе мела вялізнае значэньне для далейшых дасьледваньняў гісторыі і этнаграфіі мясцовых татараў. Найбольш каштоўная частка кнігі — разьдзелы, якія прысьвечаныя татарскім звычаям, абрадам, мэдыцыне, магіі і матэрыяльнай культуры.

Пасьля першай сусьветнай вайны і рэвалюцыі татары апынуліся ў межах трох дзяржаў — Польшчы, Летувы і Савецкай Беларусі. Палітычныя канфлікты паміж краінамі зрабілі немагчымым для гэтай этнічнай групы падтрыманьне сямейных і культурных адносін. З больш чым 9000 татараў на тэрыторыі Савецкай Беларусі з іх жыло ў 20/30 гады 3777 чалавек.

## Абрады і традыцыі

Нягледзячы на тое, што татары на польска-беларускіх землях на працягу ўсёй сваёй гісторыі жылі раздробленà, яны не былі ізаляваны адзін ад аднаго. Іх родныя дыялекты на працягу XVI стагоддзя былі здабыты, і асноўнай моваю ў зносінах стала беларуская. Але, паўтаруся, ад асіміляцыі іх захаваў Іслам. Рэлігія ў іх усьведамленьні атаясамлялася з нацыянальнасьцю. Значнае аддаленьне ад мусульманскага Ўсходу і няведаньне арабскай мовы прывялі да таго, што вельмі часта яны ведалі толькі асноўныя запаведзі сваёй веры. Звычайна абмяжоўваліся абавязковай пятнічнай малітваю. У татарскіх мячэцях у тутэйшых краях звычайна не было мінарэтаў, таму муэдзін абыходзіў вуліцы, на якіх жылі татары.

Мусульманскія сьвятыні звычайна будаваліся ў ціхіх, маляўнічых месцах і былі акружаны могілкамі — мізарам. Самы вядомы з іх знаходзіўся ў мячэці ў Лоўчыцах. Звалі яго некалі «літоўскай Мекай». На гэтых могілках пахаваны мусульманскі сьвяты, Эўлія Кантусій. На магілу яго зьдзяйсьнялі паломніцтва з усяе Рэчы Паспалітай. Па паданьню, гэта вылечвала нават цяжкахворых.

З цягам часу, калі патухлі рэлігійныя пачуцьці і людзі памяркоўней сталі ставіцца да інвалідаў, шырока распаўсюджаны выпадкі, калі шляхцічы-татары наладжвалі для сваёй каталіцкай ці праваслаўнай чэлядзі хрысьціянскія сьвяты. Вядомым чалавекам у Віленскім краі быў Мустафа Якубоўскі: зьяўляючыся глыбока веруючым мусульманінам, ён вучыў катэхізысу сваіх хрысьціянскіх слуг.

Абрад абразаньня ў беларускіх татараў амаль паўсюдна зьнік, але захаваўся абрад нарачэньня наваробжаных (сазан). Заручыны адбываюцца ў хаце бацькоў нявесты ў прысутнасьці імама, двух сьведкаў і запрошаных гасьцей. Перад самым вясельлем жаніх запрашае ў сваю хату імама і сваякоў-мужчын. Пасьля сумеснай малітвы яны накіроўваюцца ў дом нарачонай.

За 600 гадоў, якія татары жывуць на гэтых землях, іх пахавальныя абрады набылі некаторыя рысы, падобныя да хрысьціянскіх. Да паміраючага, па патрэбе сваякоў, прыходзіць імам ці мулла. Абмываньне зьдзяйсьняецца пры чытаньні малітваў. Пасьля абмываньня нос і вушы нябожчыка закрываюцца ватаю, а цела загортваецца ў белае палатно — саван. Побач кладуць далавары — скруткі з малітоўнымі тэкстамі. Затым цела накрываецца сукном, звычайна зялёнага колеру. Усю ноч пры сьвячах чытаюць малітвы. Нябожчыка кладуць у магілу галавою на Захад, каб у Дзень Страшнага Суда ён мог, устаўшы з труны, адразу павярнуцца ў бок Меккі. Імам палівае магілу вадой і просіць тых, хто прыйшоў, адыйсьці на сорак крокаў. Ён моліцца ў адзіноце і дае наказ нябожчыку. Пасьля таго, як сваякі засыпалі магілу зямлёй, зьверху яна закладваецца каменьнямі, колькасьць якіх павінна быць няцотнай. У ізгалоўі і ля ног ставяцца вялікія камяні. Пахаваньне заканчваецца раздачай садагі сям'ёй нябожчыка.

Годны ўпамінаньня звычай пабрацімства, які ўжо цяпер не сустракаецца. Ён стварае паміж двума незьвязанымі сваяцкімі адносінамі людзьмі братэрскія сувязі. Заключалі яго, абмываючы шаблі вадой. Звычай гэты існаваў і ў Крымскім ханстве, і ў Ардзе. Пабратацца маглі мужчыны незалежна ад веравызнаньня ці нацыянальнасьці, часта менавіта з народаў, якія ваявалі. Сустрэўшыся ў час баю, яны разыходзіліся, дапамагалі адзін другому, выратоўвалі з палону.

Шмат палякаў пазьбеглі ў XVII стагоддзі няволі й сьмерці дзякуючы сваім набрацімам-татарам і наадварот.

Зьнік яшчэ адзін цікавы звычай, калі ў мячэцях вешалі баявыя палкавыя сьцягі. У мячэці ў Судзянке захаваўся сьцяг палка Перадавой Варты Княства Літоўскага палкоўніка Якуба Азулевіча. Было яно зялёнага колеру з надпісамі на двух мовах — арабскай і польскай. Сьцяг гэты «загінуў» у першую сусьветную вайну разам з мячэцьцю.

Важнае месца у татарскім фальклёры займалі магічныя вераваньні. Фантазія народа засяліла сьвет разнастайнымі духамі — злымі і добрымі, якія жывуць на пустэчах, могілках, пустуючых будынках цэркваў, у багнах і лясах. Могуць прымаць рысы чалавека, зьвера ці пачвары.

(Заканчэньне на 8-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ:** група беларускіх сялян. Мяркуецца, што многія з іх мелі продкаў татарскага ці татара-славянскага корню.

* Пачатак у №№ 1, 2.

